**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 25 (793) 18 чэрвеня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by
# Вольнае Глыбокае



**Хросны ход па вул. Маскоўскай у Глыбокім.**

*Праця тэмы на стар. 4.*

*Фота Ул. Скрабатуна.*



**Падача абвестак па тэлефоне № 166**



ISSN 2077-8023



## Віцебская вобласць

# Акунуўся апошні раз

■ Станіслаў Раманчук.

**З-за асаблівасцей сёлетняга пачатку лета і істотных перападаў тэмператур купальны сезон у Прыдзвінні пачаўся не так масава і актыўна, як у больш спакотныя гады.**

Аднак зноў пачатак сезону адпачынку на вадзе аказаўся трывожным, бо з розных куткоў вобласці сталі прыходзіць сумныя паведамленні аб гібелі людзей. Звычайна такое здараецца, калі людзі на берагах вадаёмаў перад тым, як асвяжыцца, выпіваюць і забываюцца, якая бяда можа іх неўзабаве напаткаць. Вось і 51-гадовы жыхар горада Барані, што паблізу Оршы, таксама са сваёй сяброўкай на выхадных выбраўся на раку Адроў. Разам з жанчынай яны вырашылі пераплыць на супрацьлеглы бераг і вярнуцца назад. Аднак у фінале толькі яна даплыла, а больш моцны фізічна мужчына не справіўся з цячэннем вады і загінуў. Практычна адразу пасля гэтага толькі ў Верхнядзвінскім раёне ягоны практычна равеснік вырашыў пакупацца ў адной з сажалак і там закончыў свой жыццёвы шлях. Акрамя рэк, кар'ераў, катлаванаў і нават ваннаў найчасцей цяпер гібнуць людзі на азёрах, якіх вельмі багата ў вобласці. У пачатку лета там знайшлі сваю пагібель сёлета студэнт-медык Віцебскага медуніверсітэта са Шры-Ланкі і 20-гадовы жыхар вёскі Любішына Лепельскага раёна на рыбалцы, цела якога прыйшлося шукаць некалькі сутак. Напярэдадні яшчэ шмат будзе гарачых дзён і, каб не расла колькасць новых трагедый на вадзе, людзі і асабліва дзеці павінны правільна сябе паводзіць на вадаёмах. Дарэчы, за 5 месяцаў у вобласці сёлета патанулі ўжо 24 чалавекі, сярод якіх, як і ў 2014 годзе, былі двое непаўналетніх.

## Пастаўскі раён

# Цяжкасцей усё болей

■ Кастусь Александровіч

**У гэтым годзе наша краіна ўшчыльную сутыкнулася з класічнай праявай эканамічнага крызісу – празмернай вытворчасцю тавараў, якія не знаходзяць попыту ў спажыўца.**

У поўнай ступені падобныя цяжкасці адчуў і Пастаўскі раён, прамысловы патэнцыял якога складаюць 9 прадпрыемстваў. Тут і сёлета працягнае расці вытворчасць, аднак з пачатку года непрададзеныя складскія запасы патроіліся і перавысілі 36 млрд. рублёў. Найбольш цяжкасцей са збытам узнікла ў Пастаўскага малочнага завода з-за прасеўшага расійскага рынку. Хоць пастаўчане выйшлі са сваімі сырамі на буйныя гандлёвыя сеткі Краснадарскага краю, Урала і Сібіры, але рускія спажыўцы збяднелі і ўжо не купляюць, як раней, па 550 тон прадукцыі ў месяц. Буйнейшы экспарцёр раёна прыватны мэблевы цэнтр мае такія ж праблемы, ужо скараціў сваю 3-ю змену, перастаў працаваць па выхадных. Штомесяц вымушаны пакідаць на складзе сучасную бытавую і школьную мэблю ў суме па мільярду рублёў і калектыў ААТ "Паставымэбля". Гэтыя раней устойлівыя прадпрыемствы ўжо балансуюць на мяжы стратнай дзейнасці. Да групы праблемных і стратных заводаў жалезабетонных вырабаў і дрэваапрацоўчага камбіната ў Варапаеве, мадэрнізаванага льнозавода ў райцэнтры дабавіўся завод радыёкампанетаў "Беліт", дзе зборачны канвеер часцей прастойвае, чым працуе. Як і ў суседзяў, людзі бяднеюць і невыпадкова імклівымі тэмпамі падаюць аб'ёмы тавараабароту, у яго структуры ўжо дзве трэці прадаж сталі складаць прадукты харчавання.

## Браслаўскі раён

# На граніцы стала неспакойна

■ Чэслаў Якубовіч.

**Не толькі па моры імкнуцца цяпер актыўна патрапіць у заможную Еўропу грамадзяне з розных краін свету.**

Апошнім часам стаў у іх вельмі папулярным і прыбалтыйскі накірунак беларускай граніцы. За некалькі дзён толькі на тэрыторы Браслаўскага і Верхнядзвінскага раёнаў тройчы пагранічнікі Полацкага пагранатрада затрымлівалі зноў групы нелегальных мігрантаў з далёкага В'етнама. З той далёкай азіяцкай дзяржавы в'етнамцы спачатку дабіраюцца да Масквы, адкуль за вялікія грошы іх перапраўляюць у прыгранічную зону з Латвіяй. Вось і днямі паступіў пагранічнікам чарговы сігнал, што ў азёрным краі з'явілася чарговая група падазроных асоб з азіяцкай знешнасцю. Адладжаная сістэма пошукавых мерапрыемстваў неўзабаве дазволіла паблізу граніцы выявіць гэтых нелегалаў. Па інструкцыі пагранічны нарад запатрабаваў ад іх спыніцца, але парушальнікі толькі яшчэ паскорыліся, каб хутчэй патрапіць на латышскую тэрыторыю. У выніку нічога не заставалася воінам, як адкрыць з аўтамата папераджальныя выстралы ў паветра. Такая мера прымусіла пецярых нелегалаў спыніцца і здацца групе затрымання. Яшчэ праз некаторы час быў затрыманы і шосты в'етнамец, які асобна ад групываспрабаваў правадцца праз граніцу ў пошуку лепшай долі ў ЕС. Дарэчы, на гэтым накірунку мяжы полацкія пагранічнікі сёлета затрымалі ўжо 39 парушальнікаў, пераважна грамадзян В'етнама, у асобных з іх пры сабе нават не было дакументаў. З імі разбіраліся з дапамогай перакладчыкаў, каралі штрафамі і дэпартавалі на радзіму з далейшай абаронай на ўезд у Беларусь.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 18.06.15 | | | | Пятніца 19.06.15 | | | | Субота 20.06.15 | | | | Нядзеля 21.06.15 | | | | Пан. 22.06. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +10 | +14 | +16 | +16 | +14 | +16 | +16 | +15 | +13 | +15 | +17 | +16 | +11 | +16 | +17 | +16 | +12 | +13 | +16 |
| Ціск | 747 | 747 | 746 | 744 | 743 | 744 | 744 | 743 | 743 | 744 | 744 | 743 | 743 | 745 | 745 | 745 | 746 | 749 | 749 |
| Вільготнасць | 71 | 61 | 43 | 59 | 61 | 59 | 57 | 74 | 83 | 79 | 50 | 67 | 79 | 64 | 57 | 63 | 80 | 67 | 49 |
| Вецер м/сек | 2 Пд-У | 3 Пд | 4 Пд-З | 3 Пд-У | 3 Пд | 4 Пд | 6 Пд-З | 2 Пд-З | 1 Пд | 0 ШТЛ | 2 З | 1 Пд | 1 Пд | 2 Пд-З | 4 Пд-З | 2 З | 3 З | 3 З | 4 Пд-З |

# Аб самым надзёным

## І ПРЫ ЖОРСТКАЙ МАНЕТАРНАЙ ПАЛІТЫЦЫ КРАІНЕ СЁЛЕТА НЕ ЎДАСЦА ПАЗБЕГНУЦЬ ЭКАНАМІЧНАГА СПАДУ І ЗНІЖЭННЯ ДАХОДАЎ БЕЛАРУСАЎ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Тым часам усё меней часу застаецца да чарговых прэзідэнцкіх выбараў. Аднак вось у чым загвоздка, што ў гэтым годзе чакаць, як раней, падвышэння заробкаў і пенсій не прыходзіцца.**

Надыход сёлета заўсёды жаданага, асабліва для адпускнікоў, лета супаў у Беларусі з пачаткам пановаму біржавых таргоў і выбітнай сённяшняй сытуацыяй. Праўда, на фоне чарговага абвастрэння баявых дзеянняў у Данбасе і зніжэння нафтавых цэн адразу ж імкліва абваліўся рускі рубель у адносінах да долара і еўра. Заканамерна, што здала свае пазіцыі і наша нацвалюта. А вось для соцень тысяч выпускнікоў школ краіны зазду засталіся ўжо выпускныя экзамены за курс базавай і сярэдняй адукацыі і цяпер яны працягваюць далейшыя выпрабаванні, каб паболей набраць балаў на цэнтралізаваным тэсціраванні для паступлення ў ВНУ.

Нямала нашых суайчыннікаў парадавала ўступленне ў сілу Закона "Аб амністыі ў сувязі з 70-годдзем Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 гадоў". Для многіх тых, хто па нейкіх прычынах пераступіў нормы закона, гэта шанец вярнуцца да нармальнага жыцця, бо толькі з турмаў адпусцяць звыш 2 тысяч чалавек. Сярод іх і шмат непаўналетніх, а ўсяго ад крымінальнага пакарання вызваляць 8,6 тысяч асуджаных. У астатнім, на жаль, перамен да лепшага ў паўсядзённым жыцці няма, тут як бы ў далейшым яшчэ горш не стала.

Тым часам усё меней часу застаецца да чарговых прэзідэнцкіх выбараў. Аднак вось у чым загвоздка, што ў гэтым годзе чакаць, як раней, падвышэння заробкаў і пенсій не прыходзіцца. Невыпадкова нядаўна А. Лукашэнка прызнаў, што сёлета такіх магчымасцей у дзяржавы няма і галоўнае ўтрымаць заробкі людзей на ўзроўні мінулага 2014 года, хоць і гэтага дабіцца практычна нерэальна. У пачатку чэрвеня курс долара на таргах Беларускай валютна-фондавай біржы так ірвануў, што наблізіўся да гістарычнага мінімуму – 15316 рублёў.

А вось у самага адданага электарата дзеючага беларускага лідара – пенсіянераў знізіліся рэальныя памеры (99,1 % да адпаведнага леташняга ўзроўню) прызначаных пенсій. Добра, калі ў старэйшых людзей няма асаблівых праблем са здароўем, бо інакш у іх у кішэнях стала б яшчэ больш пуста. Справа ў тым, што сёлета ў студзені-красавіку ў Беларусі найбольш сярод нехарчовых тавараў падаражэлі менавіта медыкаменты і лекавыя прэпараты – на 12 %. Людзей жа на заслужаным адпачынку сярод беларусаў шмат – іх колькасць перавышае 2,5 млн. чалавек.

І вось ім менавіта ў першую чаргу трэба ўсвядоміць, што цяперашнія цяжкасці ў эканоміцы Беларусі з'явіліся невыпадкова. Мы нібыта, як тая страказа з крылоўскай байкі пра лета чырвонае, пражылі 20 апошніх гадоў і радаваліся міфічнай стабільнасці і існуючым парадкам. Беларусь жа на самой справе так і засталася ў савецкім мінулым па ўзроўні развіцця, па-ранейшаму тым жа самым савецкім зборачным цэхам і "ўсесаюзным свінарнікам", за што надышла пара горкім чынам расплаціцца. Ніколі раней такога не было, каб гордасць беларускай прамысловасці, тры сталічныя гіганты МТЗ, МАЗ і "Атлант" па выніках працы летась займелі разам 324 млн. долараў страт.

У гэтым годзе становішча ў іх, а таксама ў многіх іншых больш дробных прадпрыемстваў у глыбінцы незайздроснае, прадукцыя не прадаецца, прыбыткаў няма, людзей пераводзяць на няпоўны працоўны тыдзень. Такія меры закранулі ўжо 80 % айчынных прадпрыемстваў. У сферы будаўніцтва з пачатку года выканана на 14,5 % меней падрадна-мантажных работ, чым у 2014 годзе, а да канца гэтага года такія аб'ёмы могуць знізіцца нават на 40 %. У выніку, па ацэнках спецыялістаў, шмат будаўнікоў застанецца без працы, папоўніць рады беспрацоўных.

Даволі востры крызіс у суседняй Расіі стаў цяпер паграджаць і бяспецы эканомікі Беларусі. Праўда, на гэтым фоне за кошт ажыццяўлення Нацбанкам і ўрадам правільнай фінансава-крэдытнай палітыкі ў нашай краіне сёлета ўдаецца захоўваць стабільнасць на грашовым рынку. Грошай і крэдытаў, як раней, налева-направа не раздаюць і таму, калі такая палітыка захаваецца і не стануць перад выбарамі друкаваць пустых грошай для накачвання эканомікі, то новых узрушэнняў і абвалу рубля Беларусі ўдасца пазбегнуць. Але айчынная эканоміка цяпер хварэе і для яе аздараўлення спатрэбяцца непапулярныя меры ў выглядзе сёлета эканамічнага спаду ВУП нават на 3,5 % .

Акрамя гэтага мы будзем пераважваць рэцэсію на фоне падзення аб'ёмаў беларускага экспарту, далейшае зніжэнне рэальных даходаў насельніцтва і падзенне пакупніцкага попыту. Нагадаем, што няпроста развівалася краіна і ўсю гэту пяцігодку, бо тэмпы эканамічнага росту былі невысокія. А самай жа вялікай праблемай для Беларусі ў бліжэйшыя гады можа быць вымушаны рост беспрацоўя. Каб было ў далейшым меней такіх сацыяльных праблем і жыццёвых драм, уладам ужо зараз трэба моцна думаць, якім чынам нам справіцца з новымі выклікамі бурлівага часу.

## Дзень за днём

**Расія зноў прыгразіла Беларусі зменшыць пастаўкі нафты. Ад дэвальвацыі расійскага рубля і санкцый Рассельгаснагляду беларускі АПК страціў звыш 460 млн. долараў. З-за зніжэння экспартных паставак сёлета краіна недаатрымала звыш 3 млрд. USD. Антыкрызісны фонд ЕўрАзЭС рэкамендаваў Беларусі як мага хутчэй павысіць для насельніцтва кошт платных паслуг. Акрамя зніжэння ВУП Беларусі ў канцы года на 3,5 % можа адбыцца рэзкі рост беспрацоўя. Сталічным магазінам забаранілі прадаваць алкаголь пасля 22.00 гадзін. На працягу тыдня ў пачатку лета ў вадаёмах краіны патанулі 10 чалавек.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Прэзідэнт Б. Абама адмяніў акт аб абароне расійскай маёмасці за мяжой, што адкрыла магчымасць беглым акцыянерам Юкаса вярнуць у Пуціна да 50 млрд. $.

**Украіна.** У рамках 8 Кіеўскага форуму па бяспецы глава дыпмісіі Украіны пры ЕС К. Елісееў прапанаваў аддзяліць Азербайджан, Арменію, Беларусь ад палітыкі ЕС.

**Расія.** Былы камандзір баевікоў "ДНР" І. Гіркін (Стралкоў) паведаміў пра жахлівую сітуацыю на Данбасе, дзе ўсе "апалчэнцы" п'юць, там вялізнае развіццё наркаманіі.

**Чэхія.** Абурэнне ўрадаў краіны і суседняй Славакіі выклікаў паказаны па тэлеканале "Расія-1" ілжывы тэлефільм пра савецкую ваенную інтэрвенцыю ў ЧССР летам 1968 года.

**Малдова.** Спецслужбы краіны сумесна з калегамі СБУ Украіны затрымалі ў аэрапорце Кішынёва камандзіра батарэі баевікоў "ДНР" групы "Самалі" па мянушцы "Акадэмік".

**Расія.** Тое, што Пуцін нязграбна засакрэціў звесткі аб ваенных стратах у мірны час, як заявіла "Независимая газета", сведчыць аб прыбліжэнні вялікай вайны на кантыненце.

**Латвія.** Новым прэзідэнтам краіны дэпутаты Сейма выбралі 49-гадовага міністра абароны Раймандa Веёніса, які нарадзіўся ў Пскоўскай вобласці, калі бацька служыў там у войску.

**Японія.** Кампанія Soni пачала выпуск навейшых смартфонаў Xperia M4, якія не прамакаюць і з функцыямі падтрымкі некалькіх SIM-карт версій 3G і 4G LTE.

**Англія.** Услед за прадажнымі чыноўнікамі ФІФА, як паведаміла газета Times, агенты ФБР займуцца карумпіраванымі багатымі рускімі, якія карыстаюцца банкаўскай сістэмай ЗША.

**Расія.** З-за абвастрэння геапалітычнай абстаноўкі адна з буйнейшых авіякампаній свету Delta (ЗША) поўнасцю спыніць палёты ў Маскву, авіярынак РФ пакідаюць і іншыя фірмы.

**Польшча.** Дзякуючы майстэрству пілотаў польскай авіякампаніі LOT не трапіў у аварыю пры ўзлёце ў Варшаве самалёт Embraer-170 са спікерам Сейму краіны Р. Сікорскім.

**Кітай.** Вечарам на рацэ Янцзы з-за наляцеўшага смерчу перакуліўся і хутка затанула пасажырскае судна "Зорка Усхода", загінулі большасць з 458 пасажыраў і членаў экіпажа.

**Германія.** Міністр юстыцыі Гайка Маас заявіў, што калі Расія купіла права правесці чэмпіянат свету 2018 года па футболе, то наўрад ці яна яго ўтрымае.

**Бразілія.** Адразу 7 новых унікальных рэдкіх відаў ядавітых жаб выявілі вучоныя ў трапічных горных лясах з цёплым мікракліматам па паўднёвым ўсходзе краіны.

**Швейцарыя.** З-за карупцыйнага скандалу толькі што пераабраны прэзідэнт ФІФА Зэпп Блаттэр раптоўна падаў у адстаўку, а Англія заклікала вярнуцца да пытання ЧС у Расіі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Кіраўнік цэнтра "Стратэгія" Л. Заіка заявіў, што сітуацыя на прадпрыемствах краіны вярнулася на пачатак 90-х гадоў мінулага стагоддзя, бо не было рынкавых рэформ.

**Маладзечна.** Нягледзячы на незадаволенасць мясцовых жыхароў, А. Лукашэнка дазволіў бізнэсмэну А. Алесіну ўзвесці ля горада два свінакомплексы па 100 тысяч галоў кожны.

**Мінск.** Са стратамі 1,6 трыльёна рублёў самым праблемным ААТ краіны стаў МАЗ, шмат цяжкасцей і ў МТЗ, БМЗ, "Атланта", "Гомсельмаша", "Амкадора" і ў іншых заводаў.

**Астравец.** Пасля павышэння норм выпрацоўкі і зніжэння заробкаў з будаўнічых арганізацый узводзімай АЭС пачалі звальняцца рабочыя-будаўнікі, хоць іншай працы ў горадзе няма.

**Магілёў.** Следчы камітэт арыштаваў загадчыцу аднаго з фірменных магазінаў мясцовага мясакамбіната, якая скрала па змове з іншымі асобамі некалькі мільярдаў рублёў выручкі.

**Мінск.** Вядомы эканаміст П. Данейка заявіў, што большасць дзяржпрадпрыемстваў нельга ужо прадаць, а без іх рэструктурызацыі далейшае развіццё эканомікі немагчымае.

**Светлагорск.** Раніцай на пад'ездзе да чыгуначнай станцыі сышлі з рэек і перакуліліся 12 вагонаў з грузам шчэбня з таварнага састава, які ішоў на Жлобін, людзі не пацярпелі.

**Дзятлава.** Услед за абрушэннем сцяны вясной на мясцовым хлебазаводзе падчас рамонтных работ ад удару токам днём загінуў 32-гадовы будаўнік-тынкоўшчык.

**Мінск.** Некалькі тысяч каталікоў на чале з арцыбіскупам Т. Кандрусевічам прайшлі ўрачыстай працэсіяй па цэнтральных вуліцах сталіцы, маліліся і на плошчы Перамогі.

**Магілёў.** У дзяржуніверсітэце імя А. Куляшова, які калісьці скончыў А. Лукашэнка, колькасць студэнтаў за 5 год скарацілася на тысячу, 4 яго факультэты аб'ядноўць у два.

**Раўбічы.** Легенда сусветнага біятлона нарвежац О. Б'орндален пасля сумеснага адпачынку на Мальорцы разам з Д. Домрачавай прыбыў сюды на зборы рыхтавацца да новага сезона.

**Лунінец.** Упершыню ў рэанімацыю ЦРБ даставілі пацыента, мясцовага лесніка, які на падпітку ўпаў у лесе тварам у муравейнік і заснуў там і ў выніку быў моцна пакусаны насякомымі.

**Гродна.** Вечарам у адной з бальніц горада ў пацыента з хваробамі сэрца пагоршыўся псіхічны стан, ён забіў зэдлікам адну з пажылых хворых жанчын, параніў яшчэ траіх.

**Магілёў.** Уласны карэспандэнт агенцтва БелаПАН У. Лапцэвіч дабіўся, каб суд пакараў буйным штрафам супрацоўніка абласнога савета дэпутатаў за непрадастаўленне кнігі скаргаў.

**Брэст.** Каб пакрыць свае вялізныя даўгі, ФК "Дынама" стаў распрадаваць сваю маёмасць, офіс футбольнага клуба ў цэнтры горада і гаражы плошчай 77 квадратных метраў.

# План прыёму на бюджэтныя аддзяленні ВНУ ў гэтым годзе скароцяць на 300 месцаў




■ TUT.BY

**У гэтым годзе скарэкціраваны план прыёму на бюджэтныя аддзяленні ВНУ і ССНУ. У прыватнасці, менш студэнтаў будуць вучыцца на эканамічным і юрыдычным профілях. Пра гэта распавёў першы намеснік міністра адукацыі Вадзім Богуш.**

- Пры фарміраванні плана прыёму студэнтаў на бюджэтныя аддзяленні абавязкова ўлічваюцца інтарэсы рынку, заказчыкаў кадраў, а таксама сацыяльныя запыты. Таксама прымаюцца да ўвагі дадзеныя па выніках размеркавання і працаўладкавання выпускнікоў. Мы кіруемся няпростай мадэллю, якая дазваляе звязаць патрэбы ў эканоміцы і сацыяльнай сферы, а таксама жаданні маладога пакалення, - распавёў Вадзім Богуш.

Першапачаткова Міністэрства адукацыі заявіла аб скарачэнні 1000 бюджэтных месцаў, але пазней удакладніў: бюджэтнікаў ў вышэйшых навучальных установах з гэтага навучальнага года стане менш на 300 чалавек.

Пры гэтым, як падкрэсліў прадстаўнік Міністэрства адукацыі, захавана колькасць бюджэтных месцаў для студэнтаў, якія ў наступным будуць працаваць у галіне адукацыі і медыцыны.

- Цяпер рынак мае патрэбу ў кваліфікаваных спецыялістах у сферы інфармацыйных тэхналогій, патрэбныя тэхнікі, хлопчыкаў тэхнолагі, інжынеры. Ёсць вялікая патрэба ў рабочых спецыяльнасцях, не хапае спецыялістаў з прафесійна-тэхнічнай адукацыяй, - распавёў аб патрэбах рынку працы Вадзім Богуш.

Студэнтамі ВНУ ў гэтым годзе могуць стаць 66,7 тысячы чалавек, у тым ліку на бюджэт змогуць паступіць 27,9 тысячы хлопчыкаў і дзяўчынак. Плануецца, што 22,7 тысячы чалавек паступяць на дзённую форму атрымання адукацыі і 5,3 тысячы - на завочную.

У гэтым годзе ў дзяржаўных вышэйшых навучальных установах будзе адкрыта 29,9 тысячы месцаў для навучання за плату. З іх - 12,9 тысячы для вочнай формы атрымання адукацыі і 17 тысячы для завочнай. Усяго на ўмовах аплаты ў дзяржаўныя ўстановы вышэйшай адукацыі плануецца прыняць на 15,1 тысячы чалавек менш плана 2014 года.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Расійскія кампаніі знізілі перапрацоўку нафты на "Нафтане" і на Мазырскім НПЗ да 24 % пры ўстаноўленай квоце 50 %, пастаўкі бензіна ў РФ сталі стратнымі.

**Паставы.** Мясцовы малочны завод адгрузіў першую пробную партыю сваіх сыроў у Казахстан, асноўны іх рынак збыту ў Расіі, сырны цэх дае ў суткі да 20 тон прадукцыі.

**Орша.** Афіцыйная дэлегацыя Пскоўскай вобласці пабывала на станказаводзе "Красный борец", да канца года для фірм Пскоўшчыны адгрузяць 3 металаапрацоўчыя станкі.

**Барань.** На мясцовым ААТ "Тэхніка сувязі" з украінскіх камплектуючых пачалі выпускаць першыя айчынныя бензапілы "Аршанка" і яшчэ малочныя сепаратары.

**Полацк.** Міліцыя пачала пошук нягодніцы маці, якая парадзіла здаровае дзіця, а потым выкінула яго паміраць у кантэйнер для смецця ля аднаго з жылых дамоў горада.

**Лепель.** Суд раёна пакараў 8 гадамі турмы ў калоніі агульнага рэжыму вучаніцу 11 класа адной са школ райцэнтра, яна парадзіла дзяўчынку і неўзабаве маленькую задушыла.

**Сянно.** Прадстаўніцтва "Белдзяржстраху" перадала мясцовай школе-інтэрнату для 102 дзяцей-сірот сертыфікат на 30 млн. рублёў, камплекты для гульняў, канцтавары.

**Мёры.** Пакоі дзіцячага сада ў Язне стала не пазнаць, яго сцены прыгожа размалявала казачнымі сюжэтамі супрацоўніца, выпускніца Мазырскага ўніверсітэта Н. Кубліцкая.

**Глыбокае.** Пры выездзе з райцэнтра ў бок Шаркаўшчыны ўстанавілі і асвяцілі 2-гі па ліку паклонны крыж, такі ж сімвал адзінства людзей з Богам з'явіўся на ўездзе ў Паставы.

**Шаркаўшчына.** Днём манеўровы цеплавоз збіў на чыгуначным пераездзе ў райцэнтры 36-гадовую ўраджэнку вёскі Пялікі, яна размаўляла па мабільніку і трапіла ў рэанімацыю.

**Докшыцы.** З удзелам архіепіскапа Полацкага і Глыбоцкага Феадосія ў горадзе прайшлі мерапрыемствы з нагоды 100-годдзя земляка, прафесара РПЦ Віталя Баравога.

**Віцебск.** Адзін з праваслаўных дзякаў горада публічна ў Інтэрнэце абазваў беларускіх чыноўнікаў ворагамі "рускага свету" і паабяцаў дзейнічаць "як на Данбасе".

**Чашнікі.** Вечарам у вёсцы Лукомль 26-гадовая жанчына ехала заднім ходам і на абочыне дарогі збіла 6-гадовую дзяўчынку, якую з рознымі траўмамі даставілі ў бальніцу.

**Браслаў.** Начальнік абласнога ўпраўлення МНС палкоўнік В. Чэкан праверыў гатоўнасць выратавальнікаў раёна да дзеянняў у надзвычайных сітуацыях, пабываў у Слабодцы.

**Полацк.** У Мастацкай галерэі горада прайшла прэзентацыя ўнікальнай археалагічнай знаходкі, пячаткі XII стагоддзя, якая належала святой Еўфрасінні Полацкай.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Упершыню ў гісторыі Крыж Еўфрасінні Полацкай прыбыў у Глыбокае

*З 8 па 18 чэрвеня святыню пранеслі па 11 адміністрацыйных цэнтрах Полацка-Глыбоцкай епархіі.*

■ Уладзімір Скрабатун

**Вялікае свята, можна з упэўненасцю сказаць, гістарычная падзея, адбылася ў нашым горадзе ў нядзелю 14 чэрвеня гэтага года: у Глыбокае, упершыню за ўсё існаванне горада, была дастаўленая найвялікшая праваслаўная святыня – Крыж вялебнай Еўфрасінні Полацкай.**

Гэтая падзея сталася складнікам усіх мерапрыемстваў, якія прысвечаныя імпрэзе Дня памяці вялебнай (5 чэрвеня) і прымеркаваных да 1000-годдзя смерці святога роўнаапостальнага князя Уладзіміра. Агульнаепархіяльны Хросны ход з Крыжом Еўфрасінні Полацкай пачаўся 8 чэрвеня пасля Боскай літургіі ў Спаса-Еўфрасіннеўскім жаночым манастыры. У гэты ж дзень святыня была дастаўленая ў Наваполацк і далей, да 18 чэрвеня, была пранесеная па ўсіх раёнах, якія ўваходзяць у Полацка-Глыбоцкую епархію.

14 чэрвеня жыхары нашага раёна мелі магчымасць пакланіцца найвялікшай праваслаўнай святыні. У Глыбокае святыня прыбыла з Шаркоўшчыны. Яе сустрэча адбылася а 15.00 гадзіне на тэрыторыі Беразвецкага жаночага манастыра ў гонар Архістратыга Божага Міхаіла, а затым усе прысутныя Хросным ходам адправіліся ў кафедральны сабор Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы ў Глыбокім, дзе а 16.00 гадзіне распачалося Падзячнае набажэнства. Пасля чаго кожны змог пакланіцца Крыжу вялебнай Еўфрасінні Полацкай. Святыня ў галоўным храме нашага горада прабыла да наступнага дня – 15 чэрвеня. Пасля Боскай літургіі, якая пачалася а 8.00 гадзіне раніцы, ізноў была прадастаўленая магчымасць прыкласціся да Крыжа Еўфрасінні Полацкай, а затым у 11.00 усе тыя, хто прысутнічалі на набажэнстве, прайшліся Хросным ходам да Цэнтральнага пляца. Тут а 11.30 гадзіне было адслужана набажэнства, а ў 12.30 Хросным ходам па вуліцы Маскоўскай глыбачане праводзілі святыню ў далейшы шлях.



**Урачыстае набажэнства на Цэнтральным пляцы горада ў гонар прыбыцця Крыжа вялебнай Еўфрасінні Полацкай у Глыбокае.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Крыж вялебнай Еўфрасінні Полацкай – у Глыбокім!** *Фота Ул. Скрабатуна.*

Першым храмам Докшыцкага раёна, які прымаў далей крыж, была царква вялікапакутніка Георгія Пераможца ў Сітцах.

Далей – 16 чэрвеня – Докшыцы, дзе Крыж Еўфрасінні Полацкай сустрэлі на пляцы Палявога а 17.10. На наступны дзень – 17 чэрвеня – у Бягомлі сустрэлі крыж у храме Усіх Святых, дзе адбылося набажэнства і глыбокая пашана крыжу.

# У доме-музеі Васіля Быкава ў Бычках пройдуць літаратурныя сустрэчы, прысвечаныя пісьменніку

**20 чэрвеня ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна пройдуць літаратурныя сустрэчы, прысвечаныя памяці Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.**

У праграме імпрэзы, якая пачнецца ў 14:00, наведванне дома-музея ў Бычках, выступленні пісьменнікаў, артыстаў, грамадскіх дзеячаў і ўручэнне ўзнагарод.



**Габелен “Васіль Быкаў” Святланы Бараноўскай.**

Арганізатармі выступаюць Віцебская абласная арганізацыя грамадскага аб’яднання “ТБМ імя Францыска Скарыны”, грамадскае аб’яднанне “Рух “За свабоду” і Саюз беларускіх пісьменнікаў пры падтрымцы Ушацкага райвыканкаму, паведаміла “ННВ” сакратар абласной арганізацыі таварыства беларускай мовы Алена Сакалова.

***ННВ.***

**Падчас апытання, праведзенага Даследчым цэнтрам ІПМ, амаль дзве трацiны малых i сярэднiх прадпрыемстваў паведамiлi аб пагаршэннi свайго эканамiчнага становiшча за апошнi год.**

# Эканамічнае становішча беларускіх прадпрыемстваў пагаршаецца

Згодна з абнародаваным вынiкам апытання, 43,3% прадпрыемстваў указалi на некаторае пагаршэнне свайго эканамiчнага становiшча, 17,3% — на значнае пагаршэнне.

Прыкладна дзве трацiны апытаных адзначылi, што за апошнi год у iх знiзiлiся аб’ёмы продажу i выручкi. Пры гэтым амаль 65% удзельнiкаў даследавання канстатавалi адмоўны ўплыў на iх дзейнасць змены абменнага курсу беларускага рубля.

У лiку iншых праблем, якiя негатыўна паўплывалi на ўмовы вядзення бiзнэсу, прадпрыемствы назвалi рост дэбiторскай запазычанасцi i ўзмацненне канкурэнцыi на ўнутраным рынку. Каля 58% удзельнiкаў апытання таксама ўказалi на пагаршэнне ўмоў доступу да банкаўскiх крэдытаў за апошнi год.

На думку прадпрыемстваў, ураду неабходна прыняць меры па знiжэннi iнфляцыi i павышэннi стабiльнасцi нацыянальнай валюты для паляпшэння сiтуацыi з даступнасцю фiнансавання. Такi пункт гледжання выказалi больш за 70% суб’ектаў малога i сярэдняга бiзнэсу, якiя бралi ўдзел у апытаннi.

Апытанне малых i сярэднiх прадпрыемстваў праводзiлася Лабараторыяй аксiяметрычных даследаванняў “НОВАК” для Даследчага цэнтра IПМ у другiм квартале 2015 года. Былi апытаныя 416 малых i сярэднiх прадпрыемстваў прыватнай формы ўласнасцi. Рэспандэнтамi выступалi дырэктары, уласнiкi i ключавыя спецыялiсты прадпрыемстваў.

***Дзмітрый Заяц, БелаПАН.***

# Беларускі Чырвоны Крыж аб’явіў конкурс ініцыятыў па адаптацыі да зменаў клімату

**Беларускі Чырвоны Крыж аб’явіў конкурс ініцыятыў грамадскіх арганізацый у галіне адаптацыі да змянення клімату. Аб гэтым паведаміла карэспандэнту БЕЛТА галоўны спецыяліст па сувязях са СМІ і грамадскасцю Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа (БТЧК) Настасся Зайцава.**

Конкурс рэалізуецца сумесна з Аўстрыйскім Чырвоным Крыжам у рамках праекта “Форум усходніх краін па кліматычных змяненнях”. Да ўдзелу запрашаюцца грамадскія няўрадавыя арганізацыі (перавагу маюць тыя, што актыўна супрацоўнічаюць з Міністэрствам па надзвычайных сітуацыях і Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя).

Грамадскія арганізацыі могуць прапанаваць свае ініцыятывы па развіцці мясцовых планаў па адаптацыі, аналізе існуючай стратэгіі ў галіне змянення клімату і аховы здароўя, дыялогу з мясцовымі органамі ўлады і па павышэнні інфармаванасці насельніцтва ў гэтай сферы.

Рэалізацыя міні-праектаў разлічана на ліпень-снежань 2015 года. Канкурсантам будзе прапанавана чатыры напрамкі работы - на іх выбар. Для кожнага напрамку прапануецца пэўны бюджэт.

Пераможцы конкурсу атрымаюць тэхнічную падтрымку ад БТЧК і фінансавую падтрымку ад Аўстрыйскага Чырвонага Крыжа.

***БелТА***

# Вось такая дарагая рыбалка

**Прайшоў год, як уступілі ў дзеянне новыя Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, у якіх з'явілася шмат зменнняў і дапаўненняў.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Асобныя палажэнні Правілаў значна паляпшаюць і палягчаюць працэс рыбалоўства; так, павялічылася колькасць вадаёмаў, на якіх дазволены тролінг, у той жа час, тролінг можа ажыццяўляцца толькі адным спінінгам, для падводнага палявання гэтак жа павялічана колькасць вадаёмаў і адбыўся яшчэ цэлы шэраг змяненняў. Больш жорсткімі сталі меры адказнасці грамадзян пры незаконнай здабычы рыбы забароненымі прыладамі рыбалоўства і спосабамі, у разы (2, а часам і ў 3 разы) павялічаны таксы кампенсацыі, нанесенай прыродзе шкоды. Па дзеючых Правілах, парушальнік, які незаконна (сеткамі і інш. забароненымі прыладамі) здабыў 7 асобін ліня, будзе несці крымінальную адказнасць, а таму аматарам экстрыму неабходна ў пачатку добра падумаць, перш чым парушаць закон.

Нягледзячы на жорсткія меры адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці, якія прымяняюцца да парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету штотыдзень затрымліваюць парушальнікаў, у тым ліку і з браканьерскімі прыладамі рыбалоўства, сеткамі, брэднем, нератам. Толькі за чэрвень бягучага года спынена 15 грубых парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, у парушальнікаў канфіска-вана больш за 1 км сетак, броднікі, нерат, амаль 70 кг незаконна здабытай рыбы. Прыведзеныя ніжэй прыклады паказваюць стаўленне дзяржавы да парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, велізарныя штрафы і сумы прад'яўленай шкоды выразна даюць зразумець несумленным грамадзянам, што жартаваць з законам не трэба.



Так, 3 чэрвеня прыблізна ў 01:00 супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі на вадасховішчы Вардзік Шаркаўшчынскага раёна затрыманыя трое грамадзян, якія лавілі рыбу ў перыяд забароны з дапамогай сетак, здабыць паспелі сорак асобін розных відаў рыбы, шкода, прычыненая навакольнаму асяроддзю, склала амаль 52 млн. рублёў, часткова ўжо пакрытая. Узбуджана крымінальная справа і парушальнікам пагражае пазбаўленне волі да 6 гадоў.

12 чэрвеня гэтага года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі сумесна з нарадам АДАІ Браслаўскага РАУС затрыманыя чацвёра жыхароў Пастаўскага раёна, якія ажыццяўлялі здабычу рыбы на рацэ Палавіца Пастаўскага раёна з дапамогай забароненай прылады рыбалоўства, брадніком. Здабыча няўдачлівых рыбаловаў склала 79 дробных асобін розных відаў рыбы, але шкода, прычыненая навакольнаму асяроддзю, склала больш за 23 млн. рублёў. Парушальнікам пагражае крымінальная адказнасць і пазбаўленне волі да 3 гадоў. Вось такая дарагая рыбалка.

**Па ўсіх пытаннях Вы можаце звярнуцца ў Глыбоцкую МРІ на тэлефоны: 8-02156-28670, 28030, маб. 897-23-02, 890-55-28, 645-66-78, 249-45-49.**




# Выпадкі клешчавога барэліёзу рэгіструюць ва ўсіх абласцях краіны і Мінску

**Спецыялісты зарэгістравалі 9 выпадкаў клешчавога энцэфаліту і 164 выпадкі клешчавога барэліёзу, заражэнне якімі адбылося ўжо ў гэтым сезоне. Пра гэта паведамляе Рэспубліканскі цэнтр гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя.**

Захворванне на клешчавы энцэфаліт зарэгістраваны ў Брэсцкай, Гродзенскай і Віцебскай абласцях. Выпадкі клешчавога барэліёзу рэгіструюцца ва ўсіх абласцях рэспублікі і Мінску.



Колькасць кляшчоў у бягучым годзе па дадзеных Энтамалагічнага маніторынгу застаецца досыць высокай.

У сувязі з сезонным павелічэннем колькасці пераносчыкаў у прыродных біятопаў і актыўным наведваннем насельніцтвам лясных тэрыторый у траўні ў арганізацыі аховы здароўя з нагоды ўкусу кляшчоў звярнулася 5037 чалавек, у тым ліку 1754 дзіцяці, гэта на 22% менш, чым за аналагічны перыяд мінулага года.

Кляшчы пачынаюць праяўляць сваю актыўнасць, калі тэмпература паветра становіцца вышэй за 5 градусаў. З павышэннем тэмпературы іх актыўнасць павялічваецца, дасягаючы максімуму ў траўні-чэрвені. Мяккая зіма і вільготнае лета спрыяюць павелічэнню іх колькасці ў прыродзе.

*tut.by*

# Экалагічная бяспека з'яўляецца неад'емным складнікам нацыянальнай бяспекі кожнай дзяржавы і міжнароднай бяспекі ў цэлым



**У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 9 лістапада 2010 года №575 «Аб зацвярджэнні Канцэпцыі нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь» экалагічная бяспека – сістэма палітычных, прававых, эканамічных, тэхналагічных і іншых мер, накіраваных на забеспячэнне гарантый абароненасці навакольнага асяроддзя і жыццёва важных інтарэсаў чалавека і грамадзяніна ад магчымага негатыўнага ўздзеяння гаспадарчай і іншай дзейнасці і пагроз ўзнікнення надзвычайных сітуацый прыроднага і тэхнагеннага характару ў сучаснасці і будучыні часу.**

■ **Аляксандра Еўдакімава,** *памочнік пракурора Глыбоцкага раёна*

Пракуратура з'яўляецца асноўным органам, які ажыццяўляюць нагляд за выкананнем законаў. Ні адна іншая арганізацыя Рэспублікі Беларусь не надзелена функцыяй нагляду за выкананнем законаў і такім шырокім колам паўнамоцтваў для яе рэалізацыі.

Адным з асноўных напрамкаў дзейнасці органаў пракуратуры Рэспублікі Беларусь з'яўляецца нагляд за выкананнем органамі і арганізацыямі нашай краіны заканадаўства ў галіне аховы навакольнага асяроддзя.

За 5 месяцаў 2015 года пракуратурай Глыбоцкага раёна праведзены 3 праверкі выканання прадпрыемствамі раёна прыродаахоўнага заканадаўства і заканадаўства аб зямлі. Па выніках нагляднай дзейнасці пракуратурай у бягучым годзе вынесена 4 прадпісанні аб ліквідацыі парушэнняў, 3 службовыя асобы прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці.

Так, у ходзе аналізу інфармацыі, што паступіла з Глыбоцкай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, устаноўлена, што ў сувязі з аварыйным інцыдэнтам на ачышчальных збудаваннях ААТ «Глыбоцкі аграсэрвіс» 24 сакавіка бягучага года адбыўся скід сцёкавых вод з каналізацыйнай помпавай станцыі ў канаву, затым у ручай Безыменны, які праходзіць з вул.Садовай у г.Глыбокае і далей у воз. Кагальнае, што прывяло да забруджвання сцёкавымі водамі паверхневых вод гэтага ручая і возера Кагальнага. Шкода, прычыненая ААТ «Глыбоцкі аграсэрвіс» навакольнаму асяроддзю склала 2.363.980 рублёў.

Па дадзеным факце дырэктар прадпрыемства і галоўны энергетык прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці.

У цяперашні час пракуратурай раёна вырашаецца пытанне аб спагнанні шкоды, прычыненай водам ручая Безназоўны, з вінаватых асоб.

# Разам мы зможам зрабіць наш раён яшчэ прыгажэйшым

## Аб навядзенні парадку на зямлі



Глыбокае па праву можа лічыцца ўзорам у навядзенні парадку

**Навядзенне парадку на зямлі і ахова глебы, падтрыманне тэрыторый у чысціні ад забруджвання мае вялікае культурнае і санітарна-эпідэміялагічнае значэнне і з'яўляецца абавязкам кожнага ўладальніка тэрыторыі. У цяперашні час у нашым раёне праводзіцца праца не толькі ў плане навядзення элементарнага парадку на тэрыторыях, але і па афармленні малых архітэктурных формаў, кветкавым афармленні клумбаў, усталёўцы архітэктурных элементаў і інш.**

■ **С.В. Скіпар,** *галоўны санітарны ўрач Глыбоцкага раёна*

Маляўніча аформленыя тэрыторыі прыцягваюць увагу і радуюць жыхароў сваёй прыгажосцю і непаўторнасцю. Практычна ў кожным населеным пункце маюцца домаўласніцтвы, гаспадары якіх з любоўю ўладкоўваюць сваё жыллё і падтрымліваюць належны парадак на сваім прысядзібным участку.

Разам з тым, на тэрыторыі раёна знаходзяцца яшчэ і такія домаўласніцтвы і прадпрыемствы, на тэрыторыі якіх неабходна наводзіць належны парадак.

Забеспячэнне належнага санітарнага ўтрымання тэрыторый, памяшканняў, вытворчых, адміністрацыйных і жылых будынкаў з'яўляецца істотным фактарам папярэджання ўзнікнення розных, у тым ліку інфекцыйных, захворванняў сярод насельніцтва.

Несвоечасовае выдаленне смецця і бытавых адходаў, а таксама будаўнічых матэрыялаў прыводзіць да забруджвання глебы, распладжвання мух, пацукоў, кляшчоў і іншых шкодных жывёл і насякомых, якія з'яўляюцца пераносчыкамі інфекцый. Праз забруджаныя гародніну і садавіну, якія вырастаюць на забруджаных участках, чалавек можа заразіцца глістнымі інвазіямі, праз ваду перадаюцца некаторыя інфекцыйныя захворванні, у першую чаргу кішачныя інфекцыі. У месцах, дзе маецца высокі сухастой травы, на неапрацоўваемых працяглы час участках, каля звалак бытавога смецця выяўляецца значная колькасць кляшчоў, месцы гнездавання грызуноў. Менавіта таму важным ў папярэджанні нападу і ўкусаў кляшчоў з'яўляецца скошванне травы, недапушчэнне ўтварэння і своечасовая ліквідацыя разнастайных звалак, правядзенне санітарных высечак.

Вываз цвёрдых бытавых адходаў павінен праводзіцца толькі на палігоны і міні-палігоны з мэтай прадухілення магчымага забруджвання глебы, ваданосных слаёў, грунтавых вод. Вывозіць смецце ў нявызначаныя для гэтых мэтаў месцы катэгарычна забараняецца (лесапалосы, ускраіны вёсак).

У наш час большасць індывідуальных жылых дамоў забяспечаны ўнутранымі санвузламі. Для збору гаспадарча-фекальных сцёкавых вод на прыватных падворках абсталёўцца мясцовыя сэптыкі. Так як сцёкі з'яўляюцца значнымі забруджвальнікамі глебы неабходна праводзіць своечасовую іх адпампоўку, не дапушчаючы перацякання праз люкі, асабліва небяспечна трапленне сцёкаў у тыя месцы, дзе адбываецца вырошчванне гародніны, ягад.

Катэгарычна забараняецца рабіць месцы захоўвання адходаў, любых крыніц забруджвання паблізу шахтавых калодзежаў, з якіх у глебу і ваду могуць пранікаць хімічныя і бактэрыялагічныя забруджвальнікі, нельга ўжываць паблізу калодзежаў угнаенні і пестыцыды, таму што праз некаторы час шкодныя рэчывы, якія змяшчаюцца ў крыніцах забруджвання, з'явяцца і ў вадзе калодзежаў.

Гэта звязана з тым, што зона збору вады калодзежа – гэта верхнія пласты ваданосных гарызонтаў, у якія пранікаюць шкодныя хімічныя рэчывы разам з дажджавымі ападкамі, пры раставанні снягоў і г.д.

На тэрыторыі прадпрыемстваў, прыватных падворкаў гэтак жа неабходна ў абавязковым парадку вылучаць і ўладкоўваць адмысловыя зоны складзіравання металалому, будаўнічых і іншых адходаў з мэтай прадухілення забруджвання глебы цяжкімі металамі. Дадзеныя пляцоўкі, дзе ажыццяўляецца часовае захоўванне адходаў, павінны мець цвёрдую аснову. Пры хаатычным захоўванні будаўнічых матэрыялаў, бярвення, металалому вы рызыкуеце забрудзіць увесь свой участак шкоднымі хімічнымі рэчывамі, солямі цяжкіх металаў, такіх як кадмій, медзь, цынк, свінец, жалеза.

За санітарны стан падведамнай тэрыторыі нясе адказнасць кіраўнік канкрэтнай арганізацыі, за якой замацоўваецца дадзеная тэрыторыя, а за санітарны стан тэрыторыі прыватных домаўладанняў і прылеглых да прыватных домаўладання тэрыторый нясуць адказнасць уласнікі жылога памяшкання.

У выпадку непрыняцця мер па навядзенні належнага санітарнага парадку на замацаваных тэрыторыях адказныя асобы будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

Згодна артыкула 16.8 кодэкса РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях за парушэнне санітарных нормаў, правілаў і гігіенічных нарматываў асоба, абавязаная выконваць гэтыя правілы, прыцягваецца да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе накладання штрафу ў памеры ад 2 да 30 базавых велічынь, індывідуальныя прадпрымальнікі – да 50 базавых велічынь, юрыдычныя асобы – да 200 базавых велічынь.

**Паважаныя жыхары, рэгулярна наводзячы парадак на сваёй замацаванай тэрыторыі і на прыватным падворку, мы ўсе разам зможам зрабіць наш раён яшчэ прыгажэйшым і прывабным.**

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 22 чэрвеня




**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**09.00** Новости.
**09.10** Главный эфир.
**10.05** **«Не женское дело»** (Россия).
**11.00** 90 секунд.
**11.05** **«Любовь на сене»** (Россия).
**12.00** Новости.
**13.00** 90 секунд.
**13.20** **«Его любовь»**. 1-я и 2-я серии.
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.40** **«Его любовь»** (Россия). 3-я и 4-я, заключит., серии.
**16.00** 90 секунд.
**17.35** Белорусское времечко.
**18.40**Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Арена.
**19.40** Зона Х.
**20.00** **«Не женское дело»** (Россия).
**21.00** Панорама.
**22.00** Митинг-реквием «Врата памяти».
**22.40** Форум с Дмитрием Бочковым.
**23.35** Детективный сериал **«След»** (Россия).
**01.00** Зона Х.
**01.20** Новости.
**01.35** День спорта.




**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Фазенда».
**11.55** «Модный приговор».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.10** «Наедине со всеми».
**15.05** «Время покажет».
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Время покажет».Продолжен.
**16.50** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет. «От Рузвельта - Сталину. Белорусы в деле на миллиард».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Дело принципа».
**22.15** «Танцуй!».
**00.45** «Вечерний Ургант».
**01.25** Ночные новости.




**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** **«Диверсант. Конец войны»**
**10.05** Телебарометр.
**10.35** Азбука вкуса.
**11.05** Научное шоу профессора Открывашкина.
**11.35** **«Тайна Келлс»**
**13.25** **«Мария Верн: Снежные мечты»**
**15.05** **«Мария Верн: Смерть может спать»** (Швеция).
**16.50** Военно-приключенческий сериал **«Диверсант»** (Россия).
**17.55** Авантюрно-комедийный сериал **«Отель «Вавилон»** (Великобритания).
**19.00** Мелодраматический сериал **«Не родись красивой»** (Россия).
**20.55** Реальный мир.
**21.30** Телебарометр.
**21.35** КЕНО.
**21.40** «Экстрасенсы-детективы».
**22.40** **«Кости»** (США).
**23.35** Первые Европейские игры в Баку-2015.

СТВ REN TV

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя». Информационно-аналитическая программа.
**09.25** «Большой завтрак»
**10.05** «Дальние родственники».
**10.30** «24 часа».
**10.40** **«Солдаты 6».** Сериал.
**11.35** «Семейные драмы».
**12.30** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Кино»: **«Государственная граница. Год сорок первый».** СССР, 1986г.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Большой город».
**17.25** «Минщина».
**17.35** «Званый ужин».
**18.35** «Документальный проект»: «Карлики и великаны».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Военная тайна с Игорем Прокопенко».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Неделя спорта».
**23.30** «Кино»: **«Возлюбленные Марии»**. США,
**01.20** «Роковая любовь».




**07.00** **Каханне ля поплаву**, тэлесерыял
**07.45** **Mad Men. Утрапёныя II**, серыял
**08.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**09.05** Невядомая Беларусь. Сейбіт, д/ф
**09.55** Невядомая Беларусь. Пашпарт для беларуса, д/ф
**10.30** Назад у будучыню
**10.45** Гісторыя пад знакам Пагоні
**10.55** Загадкі беларускай гісторыі. Касцюшка контра Сувораў
**11.10** Мова нанова. Тэатр
**11.25** Беларусы ў Польшчы
**11.40** **Провады**, драма
**16.00** **Mad Men. Утрапёныя II**, серыял
**16.45** Браты Клічко, д/ф
**18.40** Размовы эксперта
**18.55** Побач з намі
**19.10** Назад у будучыню
**19.20** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19.30** Чатыры сімвалы, д/ф
**20.00** Студыя «Белсат»
**21.00** Аб'ектыў
**21.25** 54 %
**21.45** Зіма, сыходзь!, д/ф
**23.10** **Провады**, драма
**01.20** Студыя «Белсат»

